

# КРЫВІНКА

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНУ

№3, травень 2005 года



# МОВА

Мова—вышэйшая адзнака чалавека, тварэнне сотняў пакаленняў, якая выспявала непаўторнай кветкай у кожнага народа, на кожным прыдатным для жыцця лапіку зямлі. Жахліва многа часу павінна было прайсці, каб з прымітыўных гартанных гукаў жывёл, насяляўшых наш першабытны свет, узнікла нешта, падобнае да слова.

Як узнікалі словы? Што чалавек хацеў імі перадаць? Думаеце, яны узнікалі з выпадковага набору літар?

Мова чалавека –пераймальная гукам прыроды. Так, ціхія, пяшчотныя гукі перадаюцца літарамі "м", "л". Напрыклад: мілы, мама, ласкавы. Усе з'явы, што адбываюцца ў прыродзе, таксама перадаюцца гукапераймальна: ціхія гукі—глухімі зычнымі, шыпячымі і свісцячымі, моцныя ж—з абавязковым удзелам "р".Параўнайце: "цішыня"," шэпт", "шолах", і "трывога"," грымоты"," крык"," трэск".

Аб гукапераймальнай будове мовы дастаткова яскрава сведчаць наступныя прыклады: слова "тупат"—перадае бег нейкай істоты, словы "плюскат, плюхнуць, хлюпат, хлюпаць"—калі нешта падае ці перамяшчаецца па вадзе. Але самае "галоўнае" гукапераймальнае слова для беларусаў—"бульба".Яна вымаўляе гэта слова сама кожны раз, калі чалавек кідае яе у ваду, а для беларуса гэта адбываецца амаль штодня:"буль-бах".

Мы згубілі і працягваем губляць свой бясцэнны скарб. Знікаюць з ужытку словы і цэлыя выразы, характэрныя для нашай мясцовасці, якія тут нарадзіліся. Мала хто памятае ўжо словы "цэбар", "гарышча","столь", "слоік", "брама", "вэлюм". Калі мовай не карыстацца — яна памірае. Як захаваць мову, якую мэтанакіравана знішчалі стагоддзямі, дзе выйсце?

Мы, беларусы, вельмі законапаслухмяныя людзі. А яшчэ мы вельмі любім начальнікаў.

І чым вышэй начальнік—тым большая любоў.Мне здаецца, калі наш чарговы галоўны начальнік загаворыць па-беларуску, у яго адразу знойдуцца ці не мільёны паслядоўнікаў.

Толькі калі ён да нас прыйдзе—невядома. Спадзявацца ж на тое, што цяперашняя ўлада зробіць нешта ў гэтым плане слушнае—што рэшатам ваду насіць.Яе злачынная абыякавасць у моўным пытанні лішні раз падкрэслівае яе антынародную сутнасць. І колькі б ні трашчалі яе апалагеты, што нам тут, на Беларусі, прыемна і весела, як не засумаваць па роднаму слоўцу. Не часта пачуеш яго па радыё, а па тэлевізару і зусім гады ў рады.

Не хацелася б заканчваць артыкул на песімістычнай ноце, а таму працытую свой жа верш:

*У краіне маёй цяжкі дзень не канчаецца,*
*Тут страшэнны усё разбурыў землятрус.*
*Толькі ведаю я, што жыццё прадаўжаецца,*
*Пакуль будзе жывы хоць адзін беларус.*
*У краіне маёй бачу сумныя вочы я,*
*І сяброў маіх спіны сагнуў цяжкі груз.*
*Толькі ведаю я, што жыццё не закончана,*
*Разагне свае плечы яшчэ беларус.*
*Мы адновім усё, што бацькі нам пакінулі,*
*І званчэй зазвініць ў паднябессі жаўрук.*
*Над краінай маёй стане неба блакітнае,*
*Заквітнее, устане з калень Беларусь!*

**Георгій Станкевіч.**

# ПРА ПАРУШЫНКУ Ў ЧУЖЫМ ВОКУ

Калі я чую, як паслугачы ад улады брэшуць на незалежную Латвію, дзе, на іх думку парушаюцца правы меньшасці, мне хочацца сказаць наступнае.

Панове! Вы бачыце парушынку ў чужым воку. У вашай роднай краіне парушаюцца правы **большасці – і гэта Вас асабліва не хвалюе.**

У сваім воку Вы не бачыце бервяна.Некалькі мільёнаў беларусаў, сярод якіх і я, з вялікай ахвотай слухалі б ці глядзелі перадачы на нашай роднай мове. Я кажу пра гэта з такой упэўненасцю, таму што па дадзеных апошняга перапісу насельніцтва пераважная колькасць людзей назвалі мовай сваіх зносін беларускую. І вось усе мы пасля гэтага амаль поўнасцю пазбаўлены магчымасці глядзець беларускамоўнае тэлебачанне. У краіне, прагаласаваўшай па сутнасці за беларускасць, ідзе паўзучы пераварот. Спынена хваля беларусізацыі, якая была распачата адраджэнцамі ў пачатку 90-х гадоў. Шкоду, якую прычынілі краіне, не ацаніць ніякімі мільярдамі. І зараз "абаронцы" мовы ўзяліся за Латвію, дзе нешта каля двух мільёнаў жыхароў маюць гонар захаваць сваю адметнасць у свеце і не баяцца сказаць пра гэта ўслых. Я ганаруся гэтай краінай і пазіцыяй яе кіраўніцтва.

Панове, ачніцеся! Як Вы будзеце глядзець у вочы нашчадкаў? У Вас ёсць шанец увайсці ў гісторыю Беларусі з Геростратавай славай. Карыстайцеся зручным момантам, бо на нешта сапраўды годнае Вас не хопіць.

Г.Станкевіч.

● ВЫПАДКІ

# ЯК МЯНЕ ПЕРАСЯЛІЛІ

Вёска наша—Старыя Ранчыцы. Па суседству з ёю ёсць і Новыя Ранчыцы, якія, пэўна, узніклі пазней. На ўсіх лістах, паштоўках, разліковых паперах, якія прыходзяць на маё імя, стаіць—Старыя Ранчыцы. І вось, еду я недзе ў сярэдзіне красавіка гэтага года на веласіпедзе ў Бешанковічы і вачам не веру: там, дзе вясковая вуліца паварочвае пад вуглом 90 градусаў, стаяць дзве шыльды: канец вёскі Новыя Ранчыцы і пачатак вёскі Старыя Ранчыцы.- Пэўна, нехта з дарожнікаў атрымаў заданне паставіць указальнікі вёсак, і, не спытаўшы мясцовых жыхароў, перасяліў усіх у іншы населены пункт.Праўда, праз нейкі тыдзень указальнік "Новыя Ранчыцы" знік. У гэты час, калі мяне пыталі аб справах, я жартаваў:"Пераязджаў у суседнюю вёску, але там не вельмі спадабалася, прыйшлося вяртацца". Г.Станкевіч.

*НАША ЖЫЦЦЁ*

# ЦАРСКІ ПАДАРУНАК

Ужо каля тыдня, пачынаючы з 20-га мая, Крывінка не дае спакою мясцовым рыбакам.

Нейкім чынам, у час другога веснавога паводка, які ў нас пачаўся ў сувязі з незвычайна моцнымі дажджамі, у Крывінку трапіў азёрны карась. Але шлях у вярхоўе ракі яму перагарадзіла плаціна. Лепшага падарунка мясцовым рыбакам і не прыдумаеш. Зараз на плаціне ці не з 3-х гадзін раніцы збіраюцца аматары рыбнай лоўлі. Ужо ў 5 гадзін на плаціне стаіць каля 30-ці аўтамабіляў самых розных мадэляў. На берагах рэчачкі літаральна няма дзе камню ўпасці. Ловіць рыбу і старыя і малыя, нават мясцовыя жанкі не адстаюць ад сваіх моцных палавін. Гэта цяжка нават уявіць, але за дзень, калі пашанцуе, на вуду трапляе да 30-ці кілаграм рыбы! Што ж, дзякуй за падарунак, Крывінка!

У наш бядацкі час гэта амаль што царскі падарунак.

# МУЗЫКА

23 мая ў Бешанковіцкай музычнай школе прайшлі экзамены вучняў па класу фартэпіяна.

Чалавек, прыходзячы сюды з вуліцы, трапляе ў іншы свет. Ён пачынае разумець, што, аказваецца, акрамя нашага прывычнага свету з яго амаль беспрасветнай цемрай, існуе яшчэ адзін свет—свет святла і чароўных гукаў. І існуе ён не дзесьці за трымадзевяццю землямі, а зусім побач, у нас, у Бешанковічах. І ўдзячны за гэта мы павінны быць сапраўдным чараўніцам—выкладчыцам музычнай школы.

Калі Вы адчуваеце, што ў жыцці нешта не ладзіцца, што Вам крайне патрэбна для далейшага існавання недзе знайсці энергію, магчыма, Вам дапаможа музыка.Я ўпэўнены,што Вы па-новаму асэнсуеце Ваша жыццё, зможаце зажыць па-другому, шмат цікавей і глыбей.

Упэўнены, што і для ўсіх экзаменуемых музыка стане вечным спадарожнікам у жыцці, прынясе ім шчасце.

# УСЕ—У ЛАГЕРЫ!

На падрыхтоўку лагера “Арляня”, які знаходзіцца ў Бараўцах, да летняга сезону адпачынкаў з рэспубліканскага бюджэту выдзелена 12 млрд рублёў. Поўны кошт пуцёўкі сюды будзе складаць 250 тысяч рублёў, але той жа бюджэт пакрывае затраты ў памеры 160 тысяч рублёў, а яшчэ 30 тысяч выдзеляць мясцовыя бюджэты. Такім чынам, бацькам за амаль што трохтыднёвы адпачынак свайго дзіцяці прыйдзецца “раскашэліцца” усяго-нічога—30 000 рублёў. Застаецца спадзявацца на добрае летняе надвор'е, насычаную праграму адпачынку і прыемных выхавацеляў.

Сёлета тут плануецца прыняць 3 змены па 300 чалавек.

# ПАМАГАЙ БОГ!

Рэгулярнымі становяцца рэйды прадстаўнікоў улад па райцэнтру з мэтай навядзення парадку. Вінаватыя атрымліваюць папярэджанні, а інфармацыя аб рэйдах змяшчаецца на старонках раённай газеты. Пад крытыку трапляюць як арганізацыі, так і асобныя жыхары. Адначасова з гэтым прадпісанні для нерадзівых гаспадароў строчыць раённы цэнтр гігіены і эпідэмалогіі. На чарзе—глабальная праверка санітарыі ў Бешанковічах.

Памагай Бог!

# НАШ ГЕРБ І СЦЯГ

## 8 ТРАЎНЯ — ДЗЕНЬ ДЗЯРЖАЎНАГА ГЕРБА І СЦЯГА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Беларуская дзяржаўнасць мае шматвекавую гісторыю.Як сведчыць гістарычная навука, каля 750 гадоў таму назад на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўзнікла дзяржаўнае ўтварэнне, якое пазней назавуць Вялікім Княствам Літоўскім.Неўзабаве пасля гэтага ўзнікае і наш старажытны герб—коннік з узнятым над галавой мечам—“Пагоня.”

Нашы продкі не збіраліся нападаць, наадварот, яны баранілі свае землі. У сярэднявечча войны былі больш нормай, чым выключэннем з правіл. Беларускія багатыя землі прыцягвалі да сябе заваёўнікаў з усіх бакоў: з захаду і ўсходу, з поўдня і з поўначы. І яшчэ з часоў Усяслава Чарадзея існаваў звычай адбіваць у чужынцаў захоплены імі палон, імчаць за імі ў пагоню. У ВКЛ гэты звычай стаў законам. Сем з лішнім стагоддзяў таму з'явілася апісанне “Пагоні”у летапісах:”Чалавек дарослы на кані з мечам, які можа абараніць Бацькаўшчыну сваю.” У левай руцэ вершнік трымаў шчыт, на якім пазней з'явіўся шасціканцовы крыж. Герб старажытнай беларускай дзяржавы выглядаў як пурпуровы (чырвоны) шчыт з белай (срэбнай) выявай рыцара. Шасціканцовы крыж быў залатога колеру.

Чырвоны колер абазначаў агонь, мужнасць, смеласць у бітве. Белы ці срэбны—гэта чысціня, дабро, свабода і незалежнасць. Золата крыжа гаварыла пра жыццё, святло, надзею.

Белы і чырвоны колеры часцей за ўсё сустракаюцца ў беларускіх нацыянальных адзеннях. Белы колер вельмі пашыраны на Беларусі, адкуль, магчыма, паходзіць і яе назва—белая, чыстая,вольная, як святло сонца.

Сцяг ВКЛ спачатку быў чырвоны, з вышытымі на ім “Пагоняй” і Багародзіцай з Ісусам. Гэта быў складаны сцяг, які стаў больш простым і зручным каля 500 год таму.

Колеры сцяга падпарадкоўваліся пэўным законам. Так, колер малюнка герба станавіўся галоўным колерам сцяга, а колер шчыта—дадатковы. Так як рыцар “Пагоні” быў белы, а шчыт чырвоны, то мы маем наш бел-чырвона-белы сцяг. Яго колеры расшыфроўваюцца таксама, як і колеры герба.

200 гадоў таму, калі Беларусь аказалася ўключанай у склад Расійскай імперыі, расейскія цары, а пазней і бальшавікі, забаранілі карыстацца “Пагоняй”і бел- чырвона-белым сцягам.Захопнікі хацелі, каб мы забыліся пра нашу слаўную гісторыю. Людзей, якія не ведаюць пра сваё мінулае, лягчэй падпарадкаваць, зрабіць рабамі. Яны лягчэй робяцца паслухмянымі. Ім усё роўна, у якім краі мы жывём, хто і што з'яўляецца нашымі нацыянальнымі святынямі.

Сёння, “дзякуючы” сумна вядомым рэферэндумам, Беларусь часова згубіла свае старажытныя сімвалы-.Але для мяне, як і для многіх тысяч беларусаў, якія шануюць сваю гісторыю, не існуе іншай святыні. Пройдзе час, і нашы старажытныя сцяг і герб зноў зоймуць свае пачэсныя месцы галоўных сімвалаў дзяржавы.

**З кнігі У.Арлова ”Адкуль наш род.”**

# КОЛАДЗЁН

Травень прайшоў пад знакам святкавання 60-годдзя перамогі і заліўных халодных дажджоў, якіх было вельмі багата. Адметным знакам месяца магчыма таксама лічыць і узрастанне праследу іншадумцаў у краіне: распачаўся працэс над Міколай Статкевічам і Паўлам Севярынцам, якія былі ў першых шэрагах нязгодных з вынікамі сумнавядомага кастрычніцкага рэферэндума; чарговыя судовыя прэтэнзіі выказаны да газеты "Народная воля"; адбыліся выключэнні з навучальных устаноў актывістаў "Маладога фронту" у Жодзіна і адпаведная галадоўка пратэсту моладзі; пачаўся судовы працэс супраць рэдактара незалежнай газеты "Барысаўскія навіны" Анатоля Букаса; папяраджана кіраўніцтва партыі БНФ аб хуткім высяленні з офісу на Варвашэні. Усё гэта укладваецца ў пэўную логіку дзяенняў уладаў — падаўляць усе кропкі іншадумства, запалохваць грамадства.

І таксама лейтматывам гучалі уладныя запэўненні аб тым, што на Беларусі рэвалюцыі не будзе. Гэтыя запэўненні гучалі так часта, што склалася уражанне, што улады вельмі запалоханы развіццём падзей на постсавецкай прасторы. Самым галоўным ворагам адназначна выдаваліся ЗША. У гэтым кантэксце сапраўднай "вуткай" выглядае паведамленні СМІ канца красавіка аб магчымай сустрэчы Лукашэнкі і Буша у Маскве 9 мая. Між тым справа дайшла да таго, што Аляксандра Лукашэнкі не аказалася на святочным парадзе ў Маскве, дзе былі кіраўнікі больш 50 краін свету. Вось і кажы пасля гэтага, што мы разам з расіянамі і украінцамі вынеслі галоўны цяжар Айчынай вайны. Тым больш, што ў прамове Пуціна наша краіна і не ўзгадвалася.

Травень стаў таксама месяцам працягу працы па дабраўпарадкаванню на зямлі. Вядзецца гэта праца з паказушных мэтаў — як мы будзем выглядаць перад семінарыстамі. І наводзіцца парадак на трасах праезду экскурсантаў. Між тым людзі паспалітыя жадаюць перш за ўсё нармальнага праезду да сваіх дамоў і справядлівага укладання сродкаў у рамонты вуліц, дарог, дамоў. Толькі ў бюракратычным рэі галасы простага люду не чуваць — яго інтарэсы пераважна прадстаўляюць звычайныя чыноўнікі, што пад каўпаком у кіраўніка вертыкалі. А як вертыкаль кіруе, магчыма даведацца з падборкі матэрыялаў з Віцебшчыны аб якіх распавядала на радыё "Свабода" Браніслава Станкевіч.

*Леанід Гаравы.*

# АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА: ЗЬВЕСТКІ ПРА ЗБРОЮ АПАЗЫЦЫІ – ГЭТА ЧАРГОВАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

**Алег Грузьдзіловіч, Менск. *"Чарговай правакацыяй" назваў лідэр АГП Анатоль Лябедзька кампанію, якую разгарнулі дзяржаўныя мэдыі вакол зброі, якую знайшлі пад Менскам і Берасьцем. Між тым, афіцыйныя крыніцы ў міліцыі і КДБ гэтых зьвестак не пацьвярджаюць.***

У Міністэрстве ўнутраных справаў дагэтуль не пацьвердзілі зьвестак, якія распаўсюдзіла агенцтва "Інтэрфакс" 13 траўня адносна магчымай прыналежнасьці зброі, знойдзенай пад Менскам і Берасьцем.

Паводле "Інтэрфаксу", пра тое, што зброя, магчыма, належыць апазыцыі, нібыта паведамілі сьледчыя зь міліцыі, якія расьсьледуюць крымінальныя справы. Між тым, і сёньня, 16 траўня, у прэсавай службе МУС не пацьвердзілі гэтых падазрэньняў.

"Самі факты ёсьць, яны расьсьледуюцца, але прывязваць гэта да апазыцыі... У мяне пакуль няма зьвестак, чыя гэтая зброя", — сказаў супрацоўнік прэсавай службы МУС Віктар Новікаў.

Кіраўнік цэнтру сувязяў з грамадзкасьцю КГБ Валер Надтачаеў таксама не сьпяшаецца з высновамі. Ён заявіў Радыё Свабода, што справы яшчэ не расьсьледаваныя, таму немагчыма казаць пра прыналежнасьць знойдзенай зброі.

Між тым, беларускія дзяржаўныя мэдыі ўжо некалькі дзён паведамляюць пра тое, што беларуская апазыцыя нібыта завезла ў краіну зброю. Дзяржаўнае тэлебачаньне ілюструе гэтыя заявы кадрамі, на якіх дэманструюцца вялізныя арсэналы. Пры гэтым спасылаюцца на зьвесткі, распаўсюджаныя агенцтвам "Інтэрфакс".

Я спытаўся кіраўніка беларускага бюро "Інтэрфаксу" Вячаслава Зяньковіча, ці можа ён назваць крыніцы, якія б пацьвердзілі зьвесткі ананімных сьледчых МУС. Вячаслаў Зяньковіч адмовіўся размаўляць, спаслаўшыся на забарону начальства.

Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна мяркуе, што ў Беларусі распачатая чарговая кампанія ачарненьня апазыцыі, а некаторым журналістам загадана яе абслугоўваць. Між тым, Жанна Літвіна не здымае адказнасьці і са сваіх калегаў:

(Літвіна: ) "Усё залежыць ад сумленьня. Калі сеў перад мікрафонам ці тэлекамэрай, рыхтуеш інфармацыю і перадаеш яе рэдактару — у першую чаргу трэба кіравацца сумленьнем. Каля яго няма, тады няма... Тады пакутуе грамадзтва".

Лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька лічыць, што міліцыя ці КДБ маглі б лёгка высьветліць, каму належыць знойдзеная зброя, запісаўшы на відэа тых, хто карыстаецца схованкамі зброі. Тое, што гэтага не было зроблена, на думку Анатоля Лябедзькі, пацьвярджае правакацыю супраць апазыцыі.

(Лябедзька:) "У гэта могуць верыць толькі пэнсіянэры. Бо пасьля таго, што ім паказалі на гэтыя выходныя, яны пайшлі ў аптэку купляць валідол.".

# СУД НЕ ЗАДАВОЛІЎ ПАТРАБАВАНЬНЯЎ ПРЫЗНАЦЬ НЕЗАКОННАЙ ЗАБАРОНУ МІТЫНГА ГАРВЫКАНКАМАМ

Спачатку выканкам дазволіў, а потым забараніў правядзеньне мітынгу супраць падвышэньня камунальных плацяжоў, увядзеньня прымусовых кантрактаў. Спаслаўся на тое, што арганізатары парушылі закон пра масавыя мерапрыемствы — расклеілі ў горадзе абвесткі пра мітынг яшчэ да атрыманьня дазволу. Абвесткі да таго ж нібыта не адпавядалі замоўленай мэце мітынгу і выпушчаны былі з парушэньнем закону пра друк ды іншыя сродкі масавай інфармацыі.

Судзьдзя Віктар Казачок у сваім рашэньні па сутнасьці паўтарыў матывы гарвыканкаму на забарону мітынгу.

Юрыст Аляксандар Лашук, які назіраў за судовым працэсам, лічыць рашэньне суду неабгрунтаваным:

(Лашук: ) "Матывацыі ў суду няма ніякай. Ніхто не ўстанавіў факту парушэньня закону з боку арганізатараў мітынгу. Па-другое, санэпідэмстанцыя сапраўды прымала пастанову наконт грыпу, але ніводнае мерапрыемства ў той час не было адменена. Відавочна, што ніякіх прававых абгрунтаваньняў не дазваляць мітынг гарвыканкам ня меў. А гэта азначае, што і цяперашняе рашэньне суду ня мае пад сабою ніякіх юрыдычных падставаў".

*Казімер Яноўскі.*

# АПОШНІ ШУМНЫ ЮБІЛЕЙ

СССР не любіў успамінаць пра сваю віну перад народам. Але мы павінны нястомна нагадваць і пра «Мы за ценой не постоим», і пра «новы Берасьцейскі мір», які Сталін хацеў заключыць з Гітлерам.

Піша Анатоль Сідарэвіч.

З 60-годзьдзя завяршэньня Другое сусьветнае вайны яны выціснулі ўсё, што маглі. Хлусілі не чырванеючы. Што ні тэзіс, то стары прапагандысцкі штамп. А галоўныя тэзісы былі: на змаганьне ўстаў увесь савецкі народ; вайна згуртавала народы Савецкага Саюзу; Савецкі Саюз адзін перамог Нямеччыну.

Як увесь савецкі народ устаў на змаганьне з нацыстамі, сьведчыць адна лічба: у гітлераўскіх вайсковых структурах кожны пяты быў з савецкіх грамадзян.

Як *вайна згуртавала* народы СССР, мы ведаем з гісторыі высылак немцаў Паволжжа, чачэнцаў, калмыкаў, крымскіх татар... З гісторыі масавых дэпартацый насельніцтва Балтыі і Заходняе Украіны. З гісторыі масавых уцёкаў на Захад мільёнаў людзей зь Беларусі, Дону, Кубані...

Сьцьвярджаць, што СССР перамог Нямеччыну, можа толькі той, хто нічога ня чуў пра лэнд-ліз, Аб'яднаныя Нацыі і Другі фронт. І адкрыўся ён ня ў чэрвені 1944 году ў Нармандыі, як пішуць у падручніках, а ў час бітвы пад Сталінградам: тады брытанцы пачалі бамбардзіроўкі Нямеччыны, а разам з амэрыканцамі — бітву за Паўночную Афрыку. У ліпені 1943-га (ішла Курская бітва) яны былі на Сыцыліі. А праз два месяцы Італія капітулявала, і Гітлер мусіў накіраваць на Апэнінскі паўвостраў не адну дывізію.

Разумеючы фальшывасьць тэзісу «СССР перамог Нямеччыну», яны спрабуюць падмяніць яго яшчэ адным фальшывым тэзісам: «Савецкі Саюз зрабіў самы важкі ўклад у перамогу над Нямеччынай». На якіх вагах гэта ўзважана і якім мэтрам *гэта зьмерана?* Мусіць, колькасьцю палеглых на той вайне. Але гэта вынік бяздарнае палітыкі сталінскага кіраўніцтва, якое аддало немцам тэрыторыю ад Беластоку да Сталінграду (гнілая царская Расея далей як у Баранавічы іх не пусьціла). Гэта вынік бесчалавечных мэтадаў вядзеньня вайны. СССР так і ня змог палічыць усіх палеглых і замучаных. Ці гэта не адзнака зьняважлівага стаўленьня да чалавечага жыцьця?

Сталінскія маршалы («Мы за ценой не постоим») клалі на адным квадратным кілямэтры вызваленае тэрыторыі гэтулькі салдатаў, як ніводная армія сьвету. А мільёны палонных у першыя месяцы вайны? А паніцчаныя заградатрадамі? А забітыя і спаленыя энкавэдыстамі мірныя жыхары Беларусі і Украіны? А мільёны эмігрантаў, якіх таксама запісалі ў нябожчыкі?

Сёлета быў апошні ўсплёск бальшавіцкага патрыятызму. Зрэшты, ён закрануў толькі вярхі грамадзтва і толькі частку ўдзельнікаў вайны. Чым далей ад сталіцы, тым менш было шуму і чаду. Сотні тысяч грамадзян, не мабілізаваных на ўрачыстасьці, былі занятыя *іншым. Яны пазіралі на* неба і ўслухоўваліся ў мэтэапрагнозы: ці хоць пацяплее, ці можна сеяць і садзіць на лецішчах і гародах?

Халодная вясна паказала, што наша краіна яшчэ ня выйшла з эпохі натуральнае гаспадаркі, што заробкаў на годнае жыцьцё не хапае. За 60 паваенных гадоў мы так і не дасягнулі галоўнае перамогі — над беднасьцю.

Настае час разьвітаньня з ваенным пакаленьнем, якому дзяржава так і не сплаціла даўгі. Застануцца тыя, перад кім *дзяржава вінаватая найбольш.* Гэта дзеці вайны. Тыя, каго Сталін і начальнік генштабу Жукаў здалі пад уладу нацыстаў. Тыя, хто жыў у зямлянках і карміў вошы, хто цягаў на сабе плугі і бароны, каб не памерці з голаду... Ім належаць мэдалі за пакуты.

СССР і ягоныя спадкаемцы не любілі і ня любяць успамінаць пра сваю віну перад народам. Але мы павінны нястомна нагадваць і пра тых, хто давёў да Беластоцкага катла, да Сеньненскай катастрофы бранятанкавых войскаў, да Трасьцянца і гета... І пра тое, як Сталін хацеў заключыць з Гітле*рам «новы Берасьцейскі мір»* ды здаць Беларусь Нямеччыне. Калі наша грамадзтва будзе памятаць і думаць найперш пра гэта, тады сапраўды Беларусь стане дзяржаваю для народу Беларусі.

**Анатоль Сідарэвіч, "Наша Ніва".**

# ДЖОРДЖ БУШ: "АДЗІНАЯ ЗЬДЗЕЛКА, ЯКУЮ Я ЛІЧУ НЕАБХОДНАЙ ДЛЯ БЕЛАРУСІ – ГЭТА ЗЬДЗЕЛКА СВАБОДЫ"

Юры Сьвірко, Рыга. **Падчас знаходжаньня ў Рызе прэзыдэнт ЗША абмеркаваў са сваімі балтыйскімі калегамі сярод іншых пытаньняў сытуацыю ў Беларусі. Перад прыездам у Маскву Джордж Буш паведаміў, што будзе гаварыць пра Беларусь з прэзыдэнтам Расеі Уладзімерам Пуціным.**

Зьвяртаючыся да прэзыдэнтаў трох краін Балтыі, якія разам зь ім давалі прэсавую канфэрэнцыю, Джордж Буш сказаў:

(Буш:) "Мы мелі сапраўды добрую дыскусію наконт Беларусі. Мы гаварылі пра Украіну, Грузію, Малдову. Мы гаварылі пра Расею, стасункі паміж Балтыяй і Расеяй".

Першае пытаньне на прэсавай канфэрэнцыі задаў Джорджу Бушу карэспандэнт Літоўскага тэлебачаньня, і яно гучала так: "Адносна таго, што Вы заявілі нядаўна: што дэмакратычная Беларусь – таксама ў інтарэсах Расеі. Ці можа быць зьдзелка паміж Вашынгтонам і Масквой, што Расея забясьпечыць непераабраньне прэзыдэнта Лукашэнкі ў наступным годзе, а Вашынгтон, у сваю чаргу, будзе заахвочваць і хваліць дэмакратыю там, але заплюшчыць вочы на працяг расейскага ўплыву там?"

Вось што адказаў прэзыдэнт ЗША:

(Буш:) "Цікавае пытаньне – ці *можна заключыць зьдзелку, каб* вызначыць чыйсьці лёс? Я думаю, гэта тое, што мы асуджаем сёньня – тое, што адбылося з Балтыяй, тыя таемныя зьдзелкі паміж вялікімі дзяржавамі, што прадпісвалі народам нейкі спосаб кіраваньня. Мы не зьбіраемся рабіць таемныя зьдзелкі. Адзіная зьдзелка, якую я лічу неабходнай тут для людзей – гэта зьдзелка свабоды. Ім трэба дазволіць выказвацца на свабодных, адкрытых і справядлівых выбарах у Беларусі. Што да таго, у інтарэсах Расеі або не мець дэмакратыю на сваёй мяжы – абсалютна, гэта ў інтарэсах Расеі, каб яна мела сябрамі й суседзямі дэмакратыі".

Джордж Буш дадаў, што ЗША пашанцавала мець дэмакратыі на сваіх межах, хаця па нейкіх пытаньнях зь імі не заўсёды ёсьць згода.

## РЫГОР БАРАДУЛІН: ЛУКАШЭНКА НЯ МОЖА ТРЫВАЦЬ, ШТО КОЖНЫ ДЗЕНЬ ЕЗЬДЗІЦЬ У ДРАЗДЫ ПА ПРАСПЭКЦЕ МАШЭРАВА, А НЕ ПА СВАІМ

**Севярын Квяткоўскі, Менск.** Праспэкт Скарыны – на праспэкт Незалежнасьці, праспэкт Машэрава – на праспэкт Пераможцаў. Старабарысаўскі тракт назавуць вуліцай Скарыны, вуліцы Варвашэні, Ерусалімская і Драздa стануцца праспэктам Машэрава, а для вуліцаў падшукаюць новыя адрасы. Вось сутнасьць указу, падпісанага Аляксандрам Лукашэнкам. Як паставіліся да гэтых зьменаў менчукі?

Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін перакананы, што асноўная прычына перайменаваньня галоўных праспэктаў зьвязаная з амбіцыямі кіраўніка краіны:

(Барадулін:) «За гэтым стаіць у нашага часовага прэзыдэнта проста неадольная прага бачыць сябе на белым кані. Ён ня можа трываць, што кожны дзень езьдзіць у Драздзы па праспэкце Машэрава, а не па сваім. Ён падсьпудна думае, што праспэкт Пераможцаў – гэта значыць яго».

Таварыства беларускай мовы – тая грамадзкая арганізацыя, якая пастаянна прапаноўвае перайменаваньне цэнтральных вуліц Менску на гонар нацыянальных герояў. Старшыня ТБМ Алег Трусаў камэнтуе захады ўладаў:

(Трусаў: ) «Казалі, што няма грошай, што трэба дбаць пра пэнсіянэраў, вэтэранаў, інвалідаў. Цяпер грошы знойдзеныя – з нашай з вамі кішэні. І велізарныя сумы будуць кінутыя на вецер. Бо памяняць напрыклад Францыска Скарыны – гэта шалёныя грошы».

Калі два гады таму да менскіх уладаў зьвярнуліся з просьбай назваць адну з цэнтральных вуліцаў імем Быкава, паступіла адмова. Маўляў, новыя назвы будуць зьяўляцца толькі ў новых мікрараёнах. Працягвае Алег Трусаў:

(Трусаў: ) «Мы былі за тое, каб новым вуліцам надаваць імёны нашых герояў. І калі так хацелася перайменаваць, у нас ёсьць вуліца Энгельса, Валадарскага, Леніна, Калініна і г.д. Чамусьці не спадабаўся нават Машэраў. Гэта значыць, што ўлада пачынае мяняць палітыку. І старая савецкая міталёгія ўжо не працуе. І не выпадкова зьявіўся праспэкт Незалежнасьці».

Зрэшты, ёсьць менчукі, якім даспадобы новае рашэньне пра зьмену назваў, але большасьць паставілiся скептычна. Афіцыйныя мэдыі спасылаюцца на вэтэранаў, якія нібыта папрасілі пра перайменаваньні ў прэзыдэнта Лукашэнкі. Але сярод вэтэранаў вайны вядуцца спрэчкі. Асабліва вакол імя Пятра Машэрава:

(Вэтэран: ) «Гэта дарма. Праспэкт Пераможцаў патрэбны, але Машэрава ня трэба было чапаць».

## НА МЕНСКІ РЭФЭРЭНДУМ АБ ПЕРАЙМЕНАВАНЬНІ ВУЛІЦ ПРАПАНУЮЦЬ ЧАТЫРЫ ПЫТАНЬНІ




***Валер Каліноўскі, Менск.** 27 траўня адбылося другое паседжаньне грамадзкага аргкамітэту ў справе правядзеньня менскага гарадзкога рэфэрэндуму дзеля перайменаваньня А.Лукашэнкам цэнтральных праспэктаў і вуліц беларускай сталіцы.*

Юрысты падрыхтавалі праекты пратаколу сходу ініцыятыўнай групы, заяваў яе сяброў і звароту ў гарвыканкам. Сход ініцыятыўнай групы мяркуецца правесьці 13 чэрвеня ў памяшканьні, якое павінны даць гарадзкія ўлады.

У праектах гэтых дакумэнтаў прапанавана на менскі гарадзкі рэфэрэндум вынесьці чатыры пытаньні. Першае зь іх гучыць наступным чынам: "Ці лічыце вы неабходным вярнуць ранейшую назву праспэкту Ф.Скарыны, які ў адпаведнасьці з указам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 7 траўня 2005 году за нумарам 216 быў перайменаваны ў праспэкт Незалежнасьці?" Астатнія тры пытаньні датычацца адпаведна праспэкту Машэрава, Старабарысаўскага тракту ды вуліц Варвашэні, Ерусалімскай і Драздa (апошнія тры разам былі перайменаваныя А.Лукашэнкам у новы праспэкт Машэрава).

Кіраўнік аргкамітэту Сяргей Альфер неабходнасьць чатырох пытаньняў на рэфэрэндуме патлумачыў юрыдычнымі патрабаваньнямі, каб пытаньні, што выносяцца на ўсенароднае абмеркаваньне, былі яснымі і адназначнымі. Зь іншага боку, гэта патрэбна і для зручнасьці выбаршчыкаў, зазначыў спадар Альфер:

Аднак праблема не ў заканадаўчым рэгуляваньні, а ў жаданьні ўлады прызначыць мясцовы плебісцыт.

Сяргей Альфер ад імя аргкамітэту запрасіў на паседжаньне ініцыятыўнай групы прадстаўнікоў менскіх гарадзкіх уладаў.

## ПРАКУРОР ПАПРАСІЎ ДАЦЬ ПА 3 ГАДЫ "ХІМІІ" ЛІДЭРАМ АПАЗЫЦЫІ

***Любоў Лунёва, Менск.** Тры гады абмежаваньня волі з адбыцьцём пакараньня на так званай "хіміі" — такое пакараньне папрасіў абвінаваўца для Міколы Статкевіча і Паўла Севярынца. Суд над апазыцыйнымі палітыкамі цягнецца з 23 траўня. Іх абвінавачваюць у арганізацыі вулічных дэманстрацыяў 18 і 19 кастрычніка, у часе якіх нібыта адбываліся масавыя беспарадкі. 24 траўня Міколу Статкевіча арыштавалі на дзесяць сутак за непавагу да суду, бо ён адмовіўся адказваць на пытаньні судзьдзі і ўставаць перад ім. На знак пратэсту апазыцыянэр трымае галадоўку.*

Прамову прадстаўніка пракуратуры Вадзіма Пазьняка, які папрасіў пакараць Міколу Статкевіча і Паўла Севярынца абмежаваньнем волі на тры гады, Мікола Статкевіч не пачуў. Яго, як і штодня ад пачатку арышту, прывезьлі ў суд а 10 гадзіне. Ён зноў адмовіўся ўстаць перад судзьдзём Леанідам Ясіновічам, і амонаўцы зноў вывелі яго з судовай залі.

Мікола Статкевіч заявіў Радыё Свабода, што будзе і надалей трымаць галадоўку.

(Статкевіч: ) "Безумоўна, цяпер у мяне пытаюцца адно і тое ж. Але пакуль у Беларусі ня зьявіцца незалежнага суду, мая пазыцыя таксама не зьменіцца. Я працягваю галадоўку, і я галадоўкі спыняць ня буду. Я сваёй пазыцыі не мяняю. Адзінае, чаго мне ўдалося дамагчыся: хворага на дызэнтэрыю чалавека, які знаходзіўся ў маёй камэры, адправілі ў шпіталь. Калі мне судзьдзя скажа, што ў гэтай краіне зьявіўся незалежны суд, то я спыню галадоўку. Але гэта нерэальна".

Павал Севярынец спакойна ўспрыняў прамову прадстаўніка пракуратуры. Вось як ён пракамэнтаваў гэта Радыё Свабода:

(Севярынец: ) "Тры гады "хіміі", гэта адначасова і спроба прынізіць, і спроба нэўтралізаваць перад прэзыдэнцкімі выбарамі 2006 году як Статкевіча, так і мяне. Але стаўлюся да гэтага спакойна. Турбуе мяне суд Божы, а не чалавечы. Тым больш ня суд гэтай улады. Таму, які б прысуд ні быў, захаваем маральную гатоўнасьць да ўсіх магчымых складанасьцяў, з гэтым зьвязаных. Але ж хацеў бы зазначыць: падчас судовага разгляду гэтай справы стала відавочна, што крымінальная справа развальваецца. Пракурор пачаў адмаўляцца ад кавалкаў абвінавачаньня, казаць: "Ну, ня цяжкае злачынства. Цяжка патрабаваць зьняволеньня". Па ўсіх яго паводзінах было відаць, што ён шкадуе аб тым, што не ўдалося знайсьці крыміналу ў гэтай справе".

Агалошваньне прысуду адбудзецца 31 траўня.

***P.S. Суд прызначыў лідэрам апазыцыі тры гады «хіміі».***

# У ЗАХОДНІХ РАЁНАХ ВІЦЕБШЧЫНЫ АД ХОЛАДУ ЗАГІНУЛІ ВЫГНАНЫЯ НА ПАШУ КАРОВЫ

Браніслава Станкевіч, Віцебск. **Загады выганяць кароў у поле з 9-га траўня паступілі ад раённага начальства, і ў гаспадарках мусілі падпарадкавацца, нягледзячы на тое, што на Мёршчыне тэмпература зьнізілася да 0 градусаў, а ў Шаркоўшчынскім раёне ўвогуле пайшоў сьнег. Цяпер там падлічваюць страты: паводле папярэдніх зьвестак, у кожным з раёнаў загінулі больш як па тры сотні кароў ды цялушак.**

Нечаканае пахаладаньне ўдзень 10-га траўня ў Мёрскім раёне лічаць галоўнай прычынаю таго, што ў 5-ці гаспадарках загінулі 360 галоў быдла.

Словам "загінулі" абагульняецца ўсё, што здарылася тут у апошнія суткі – і тое, што, ратуючыся ад ветру і дажджу, цялушкі туліліся адна да адной і насьмерць душылі слабейшых, і што аслаблыя за зіму каровы пасклізаліся і танулі ў перапоўненых вадой канавах, і што нават пасьля таго, як жывёлу загналі пад дах, частка дойнага статку загінула ад вострых запаленьняў.

Страты раённай сельскай гаспадаркі пакуль не падлічаныя, бо некаторую частку яшчэ жывых кароў пасьпелі адправіць на Мёрскі мясакамбінат, дзе так званы "убойны" цэх працаваў усю ноч навылёт. Сюды ж быў выкліканы і намесьнік раённага пракурора Аляксей Лапушынскі, які праводзіць тут праверку, бо факты масавага падзяжу жывёлы сталі вядомыя толькі дзякуючы таму, што супрацоўнік службы ДАІ выпадкова спыніў прычэп з памерлымі цялушкамі. Пра вынікі праверкі прадстаўнік Мёрскай пракуратуры пакуль нічога не кажа.

Кіраўнік Шаркоўшчынскага райсельгасхарчу Іван Лаўрановіч сцвярджае, што кароў ды цялушак ў гаспадарках гэтага раёну таксама загубіла выключна надвор"е.

(Лаўрановіч:) " Ліў тут дождж, 56 міліметраў за суткі – гэта больш як месячная норма. Паніжэньне тэмпературы было ноччу і сьнег, сьнег ішоў пяць гадзін."

(Карэспандэнтка:) " А чаго ж кароў пагналі на пашу ў такое надвор"е?"

(Лаўрановіч:) "Дык усе гады выганяем такім часам, і праблем не было! А тут вось так атрымалася."

Паводле словаў Івана Лаўрановіча, у Шаркоўшчынскім раёне страцілі толькі каля сарака кароў, і тое іх нібыта пасьпелі яшчэ жывымі адвесьці на мясакамбінат у Глыбокае. Хаця супрацоўнікі толькі аднаго аграпрадпрыемства "Княж" ананімна кажуць, што ў іх загінулі 87 кароў і 40 цялушак, і вінавацяць у гэтым толькі раённае начальства, якое аддала загад пра пашавае ўтрыманьне жывёлы..

Гаварыць пра маштабы стратаў усяе Віцебшчыны чыноўнікі абласнога рангу адмаўляюцца. Так, намесьнік старшыні аблсельгасхарчу Віктар Славецкі параіў журналістам не ўзьнімаць дарма паніку, бо, паводле ягоных словаў, на захадзе Віцебшчыны нічога надзвычайнага не адбылося – ніводная карова не замерзла і ідзе ўсяго толькі плянавая здача быдла на мясакамбінаты.

# НА ВІЦЕБШЧЫНЕ ЗАВЕДЗЕНЫЯ ДЗЬВЕ КРЫМІНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ СУПРАЦЬ ЧЫНОЎНІКАЎ

Браніслава Станкевіч, Віцебск **Намесьнік старшыні Браслаўскага райвыканкаму падазраецца ў злоўжываньні службовым становішчам, а начальнік аўтамабільнага пункту пропуску "Рэдзькі –Ляды", што знаходзіца ў Дубровенскім раёне, на мяжы з Расеяй, знаходзіцца пад сьледзтвам за атрыманьне буйнога хабару.**

Намесьнік старшыні Браслаўскага райвыканкаму, які ёсьць адначасова і дэпутатам райсавету, быў упаўнаважаны кіраваць выкананьнем праграмы будаўніцтва на сяле – ўзьвядзеньнем так званых "прэзыдэнцкіх" дамкоў.

Абласная пракуратура завяла супраць яго крымінальную справу за тое, што ён загадваў сваім падначаленым прымаць у якасьці гатовых незавершаныя аб"екты, як сказана ў афіцыйнай фармулёўцы пракурора, " з мэтаю даць становучую справаздачу пра выкананьне высокіх паказьнікаў".

Пракуратура лічыць, што ён нанёс істотную шкоду дзяржаве, бо сваімі злоўжываньнямі "падрываў аўтарытэт і прэстыж дзяржаўнае ўлады". Паводле адпаведнага артыкулу Крымінальнага кодэксу, за гэта чыноўніку пагражае тэрмін зьняволеньня ад 3-х да 10-ці гадоў.

# СЯРОД ДЭМАКТЫВІСТАЎ ВІЦЕБШЧЫНЫ НАЙБОЛЬШ ГАЛАСОЎ АТРЫМАЎ МІЛІНКЕВІЧ

Абласную канфэрэнцыю ў справе вылучэньня адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў было вырашана правесьці ў лесе пад Віцебскам, бо правесьці такую імпрэзу ў горадзе тутэйшыя актывісты палічылі немагчымым.

Аднак віцебская міліцыя знайшла апазыцыянэраў і там. На ціхіх вулачках прыгараду наўрад ці бачылі калі-небудзь такую колькасьць міліцэйскіх машын, як сёньня, і дэлегатаў канфэрэнцыі ў лесе сустрэлі каля двух дзесяткаў міліцыянтаў – з Віцебскага раённага і абласнога аддзелаў. Начальнік абласнога аддзела аховы правапарадку Сяргей Іваноў зьвярнуўся спачатку да прэтэндэнта Анатоля Лябедзькі, які прыехаў на канфэрэнцыю першым, з тым, каб усім прысутным было загадана разысьціся, але Анатоль адмовіўся гэта выконваць.

Калі міліцыянты папярэдзілі, што арыштуюць кожнага, хто будзе выступаць з прамовамі, да нечага заклікаць або нават проста засьпявае песьню "неадпаведнага зьместу", арганізатары канфэрэнцыі прапанавалі іншы фармат яе правядзеньня. 109 дэлегатаў падзяліліся на чатыры групы, да якіх па чарзе падыходзілі чацьвёра прысутных прэтэндэнтаў на вылучэньне: Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька, Аляксандар Мілінкевіч і Станіслаў Шушкевіч. Яны адказалі на пытаньні і падзяліліся сваімі плянамі.

Галасаваньне таксама праводзілася незвычайным чынам. Калі галасы падлічылі, то высьветлілася, што найбольшым даверам у прадстаўнікоў дэмакратычнае грамадзкасьці Віцебшчыны карыстаецца Аляксандар Мілінкевіч, ён набраў 68 галасоў. За Сяргея Калякіна прагаласавалі 53 чалавекі, за Анатоля Лябедзьку – 46, за Мікалая Статкевіча –39, за Станіслава Шушкевіча –27, за Мікалая Бусьнюка – 21, за Валерыя Арцішэўскага і Валерыя Грыцука – па 9 чалавек.

# АНЖАЛІКА АГУРБАШ ФІНІШАВАЛА СЯМНАЦЦАТАЙ



Ігар Карней, Менск **Мільённыя выдаткі на падрыхтоўку да "Эўрабачаньня-2005" ня мелі для беларускай удзельніцы Анжэлікі Агурбаш плёну. Агурбаш паводле вынікаў глядацкага галасаваньня не ўвайшла ў дзясятку лепшых і такім чынам завяршыла ўдзел у конкурсе сямнаццатай. Летась беларускі дуэт "Аляксандра і Канстанцін" у паўфінале быў перадапошні.**

Яшчэ напярэдадні ад'езду ў Кіеў Анжаліка Агурбаш гаварыла, з кім зьбіраецца падзяліць "радасьць перамогі":

(Агурбаш: ) "Ня я еду на "Эўрабачаньне", уся краіна едзе. За мной 10-мільённы народ, які мяне любіць, за мной урад, які дапамагае і ўсё робіць, каб мы максымальна наблізіліся да перамогі. Мы за цаной не пастаім: зробім усё магчымае і, самае галоўнае, немагчымае, каб найлепшым чынам паказаць сябе і зрабіць усё, каб наступнае "Эўрабачаньне" прайшло ў Менску".

Адносна ўчорашняга выступу Анжалікі Агурбаш былая тэлевядучая Элеанора Язерская наўпрост кажа: Агурбаш пераблытала сцэну з подыюмам.

(Язерская: ) "Калі я пачула яшчэ месяц назад яе песьню, я сказала: нічога ў Агурбаш не атрымаецца. Мне было вельмі сумна так думаць, таму што я ўвогуле добра стаўлюся да Анжалікі. Яна прыгожая жанчына, артыстычная. Але на "Эўрабачаньні", перш за ўсё, трэба сьпяваць, а не дэманстраваць дарагі касьцюм. Гэтая сукенка, якую шыў хвалёны Юдашкін, на мяне не зрабіла ніякага ўражаньня. За што такія грошы? — пэўна, пра гэта думала ня я адна. Песьня для мяне таксама не цікавая. Такіх песень цяпер процьма. Дарэчы, удзельніца з Грэцыі ад гэтай песьні адмовілася.Чаму ўзяла яе Анжаліка? Мабыць, такія былі ў яе настаўнікі".

Цягам усяго папярэдняга тыдня Анжаліку Агурбаш суправаджала выключна расейская "сьвіта": Усе гэтыя людзі ня першы раз прывозяць расейскіх выканаўцаў на "Эўрабачаньне" (досыць згадаць тых жа Кіркорава і Пугачову) і кожны раз аказваюцца па-за бортам спаборніцтваў. Элеанора Язерская перакананая: у выпадку, калі лепшых вызначаюць звычайныя гледачы, стаўка на вялізныя і "ўсемагутныя" грошы не апраўданая.

(Язерская: ) "Паездкі па дваццаці шасьці краінах Эўропы, што арганізаваў яе прад'юсар Філіп Кіркораў — гэта яшчэ ня ўсё. Патрэбен добры песенны матэрыял, створаны ў сваёй краіне, і больш прадуманая падрыхтоўка. З Анжалікай Агурбаш адбыўся цікавы, на ўсю Эўропу, экспэрымэнт. Ці можна за вельмі вялікія грошы (раскрутка пацягнула дзесьці на 4 мільёны даляраў) стаць зоркай "Эўрабачаньня"? Аказваецца, немагчыма. А наагул, вельмі сумна".

Як адзначаюць музычныя крытыкі, паводле размаху рэклямнай кампаніі беларускі штаб Агурбаш апярэдзіў усіх астатніх. Дзеля таго, каб аблашчыць публіку, выдалі мільёны асобнікаў кампакт-дыскаў, касэтаў, бэйсболак і маек з выявай беларускай канкурсанткі.

Юры Падольскі, бацька і прад'юсар яшчэ адной беларускі, Натальлі Падольскай, якая выступіць у фінале за Расею, перакананы: адказнасьць за паразу Агурбаш мусіць падзяліць ня толькі яе атачэньне, але і высокапастаўленыя чыноўнікі ад культуры:

Радыё "Свабода"

# У НАРОЎЛІ ВЫСЯЛЯЮЦЬ НЕПЛАЦЕЛЬШЧЫКАЎ КАМУНАЛЬНЫХ ПАСЛУГАЎ

Казімер Яноўскі, Нароўля. **У заражанай радыяцыяй Нароўлі мясцовыя ўлады распачалі змаганьне зь неплацельшчыкамі за камунальныя паслугі. У раённы суд пададзены дзясяткі пазоваў на прымусовае спагнаньне доўгу. Многім жыхарам адключылі ваду. Некаторыя людзі з добраўпарадкаванага жытла пераселены ў "маласямейкі".**

Паводле зьвестак жыльлёва-камунальнага прадпрыемства "Нароўля", больш як 800 жыхароў райцэнтру маюць цяпер запазычанасьць за карыстаньне жытлом ды камунальнымі паслугамі. Ня выплачана агулам 126 мільёнаў рублёў. Гаворыць кіраўнік юрыдычнай службы камунальнага прадпрыемства Галіна Сергіенка:

(Сергіенка: ) "36 пазоваў мы афіцыйна падалі ў суд на спагнаньне даўгоў за кватрплату. Сем пазоваў падрыхтавана ў мяне на высяленьне. Чатыры нашыя пазовы на высяленьне ўжо задаволілі сёлета".

Гутару з пэнсіянэркай Вольгай Спаскай. Рашэньнем суду за няўплату яе з дачкой-інвалідам з кватэры ў катэджы на вуліцы Мэліяратараў перасяляюць у камунальную аднапакаёўку на вуліцу Корзуна. Спадарыня Спаская ўжо пакавала клункі:

(Спаская: ) "Хата ў мяне непаганая, цёпленька тут. Але цяжка адной. Сто зь лішкам тысяч плаціць за кватэру — пэнсіі не хапае. Газ пакуль не адключылі, а вады ў мяне даўно няма. Тры гады, як ваду адключылі. Цяжка! Пэнсію атрымаю і буду пераяжджаць".

Асноўныя неплацельшчыкі ў Нароўлі — жыхары так званых "чарнобыльскіх дамоў", перасяленцы з заражаных радыяцыяй вёсак, а таксама адзінокія пэнсіянэры і беспрацоўныя. Сярод неплацельшчыкаў багата і тых хто працуе, але мае мізэрныя заробкі.

(Шугай: ) "Кватрплата зімою 120 тысяч, а заробак — 150. Як выплачваць і як жыць зь дзецьмі?" — пытаецца санітарка раённага шпіталю, маці траіх дзяцей Сьвятлана Шугай.

Жыхары Нароўлі абураюцца высокімі камунальнымі плацяжамі, адсутнасьцю гарачай вады.

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЧАЛАВЕКА

Памёр Генадзь Пятровіч Шыбека. Памёр у самым росквіце гадоў, пакінуўшы нам светлую памяць.

Я пазнаёміўся з ім у 1984 годзе, калі прыехаў у наш раён пасля сканчэння БСГА. У гэты час Генадзь Пятровіч працаваў галоўным аграномам раёна і прымаў калгас імя Заслонава, дзе ён адпрацаваў старшынёй больш 10 гадоў. Чалавек шчыры, няўрымслівы, ён ніколі не сумаваў. Справа кіпела ў ягоных руках. Успамінаюцца нашы сумесныя паездкі па Беларусі ў 1987—89-х гадах, якія ў той час былі не рэдкасць. Генадзь Пятровіч быў душой калектыву, дасканала ведаў сельскагаспадарчую вытворчасць, умеў вырашаць самыя складаныя пытанні. Нам, маладым кіраўнікам, яго часта ставілі ў прыклад.

Цяжка сказаць, дзе б яшчэ Генадзь Пятровіч змог бы праявіць свае здольнасці, акрамя калгаснай нівы, —ў любым выпадку хацелася б спадзявацца, што ягоны лёс быў бы больш шчаслівейшы.

Страшная сталінская сістэма помсціць і сёння. Ёй мала раскулачаных, растраляных, памерлых ад голаду. Вось і за некалькі апошніх гадоў яе ахвярамі сталі мае калегі і сябры, маладыя хлопцы, чыё яркае жыццё абарвалася на паўдарозе: Сірыска Сяргей Аляксандравіч, Пальянюк Фёдар Кандратавіч, Краўчанка Міхаіл Пятровіч, Кабышка Анатоль Рыгоравіч, Шыбека Генадзь Пятровіч...Колькі іх сіл і здароўя засталося на бешанкавіцкай зямлі.

Помніць, не забываць іх добрыя справы—наш святы абавязак.

## РОЗДУМ НАД ЛІЧБАМІ

Як сведчаць статыстычныя дадзеныя па Бешанковічскаму раёну, найвышэйшая тут зарплата ў сакавіку была ў работнікаў банка—562500 руб. Не вельмі адстаюць ад іх работнікі органаў дзяржаўнага кіравання—550296 руб. На трэцім месцы—судзебныя і юрыдычныя органы—466667 руб. З другога боку, работнікі асноўнай галіны раёна—сельскагаспадарчай маюць толькі 184600 руб, работнікі гандлю—269048, будаўнікі—273312 рублёў у месяц. І гэта—намінальная зарплата. Колькі ж рэальных грошай прынясуць бацькі ў сем'і пасля таго, як заплоцяць усе плацяжы: камунальныя, за газ, святло, тэлефон і г. д. ? Нешта крыху больш за 100000 . Калі ўлічыць, што сям'і з трох чалавек толькі на хлеб на месяц патрэбна каля 70000 рублёў, то ўзнікае лагічнае пытанне:"- Як жыць?"

Народ даўно жыве на мяжы выжывання, і нікога гэта не хвалюе. Хочаш смачна есці—уключай тэлевізар, а лепш завадзі карову, парсючка і не задавай дурацкіх пытанняў.

Многа слушнага наконт таго, "Што рабіць?", ёсць у дзеячаў так называемай апазіцыі—наогул, вельмі адукаваных грамадзян Беларусі. Можа, хопіць рабіць з іх ворагаў, а лепш прыслухацца да іхніх парад? Ці не досыць нагнятаць у грамадстве абстаноўку падазронасці, ледзь не вайны, можа, лепш заняцца кансалідацыяй усіх сіл грамадства на карысць Беларусі? Разам, як кажуць у народзе, лягчэй і бацьку біць.

## ЯК ЖЫЦЬ ДАЛЕЙ?

У студзені-лютым 2005 года колькасць памерлых у раёне (56 чалавек) зноў перавышала колькасць народжаных (25 дзетак).

За тыя ж 2 месяцы ў шлюб уступілі 32 чалавекі, а яго пакінула 14 чалавек.

У народнай гаспадарцы раёна працавала 6500 чалавек з сярэднемесячнай зарплатай 278508 руб.

Колькасць беспрацоўных на 1.04.05. склала 135 чалавек.

## ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ, АБО...

Як сігналізуюць жыхары мікрараёна "Маладзёжная", з пастаноўкай тут кантэйнераў для смецця больш чысцей не стала. Кажуць, што раней, калі ездзіла машына, якая збірала смецце, было лепш. Кантэйнеры тыя стаяць насупраць школы, амаль ля школьнай агароджы, і ніяк не ажыўляюць школьны пейзаж, а, наадварот, ствараюць дыскамфорт.

Справа ў тым, што яны напаўняюцца вельмі хутка, і вецер разносіць лёгкае смецце па прылягаючай тэрыторыі, а вучні ў вокны назіраюць гэты невясёлы малюнак.Выйсце з сітуацыі павінны знайсці адказныя работнікі жылкамунгаса, а што трэба рабіць могуць падказаць жыхары навакольных дамоў або настаўнікі СШ №1.

Між тым, па санітарных нормах усе гэтыя кантэйнеры павінны знаходзіцца на бетонных пляцоўках і быць закрытымі з трох бакоў. І гэта падлягае нагляду дзяржаўнай санітарнай службы.

## ПОСПЕХАЎ ТАБЕ, АЛЕНА!

Алена Барадаўка—вучаніца Свячанскай СШ. З яе творчасцю я даўно знаёмы, як, дарэчы, і з ёю асабіста. Я не раз наведваў гэту школу і чуў яе шчырыя вершы. Таму асабліва прыемна было даведацца, што на абласным конкурсе "Крыніца творчасці" Алене было прысуджана другое месца. Хочацца верыць, што гэты поспех—чарговая ступенька да майстэрства, да ўзлёту.

Поспехаў і адкрыццяў табе, Алена! Дасылай свае творы і ў "Крывінку".



Заснавальнік і рэдактар: Георгій Станкевіч

Адрас рэдакцыі: Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, тэл. 37455, e-mail: stan62@tut.by

Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА "Фонд імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна.